© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Няхай жыве 1 мая!


У НУМАРЫ

- Літаратурны рух і навуковая дзейнасць
- Новыя вершы Ул. Гайдука, Л. Танкевіча, І. Чыквіна, С. Стаськевіч
- Белавежцы ў баях на Нысе
- Карэспандэнцыя з Гродна
- Беластоцкае свята савецкай песні
- Беларускі аўтограф П. Чайкоўскага
- Смерць Гітлера.



# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 18 (740) ГОД XV БЕЛАСТОК 3 МАЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## ЯДНАЕ НАС САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ ЗМЕСТ

**ІНТЭРВ'Ю З МГР ЗБІГНЕВАМ ДАМБРОЎСКІМ — КІРАЎНІКОМ АДДЗЕЛА КУЛЬТУРЫ ПРЭЗІДЫУМА ВРН У БЕЛАСТОКУ, СТАРШЫНЁЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ ВАЯВОДСКАГА КАМІТЭТА ПАРП У БЕЛАСТОКУ.**

**— З якімі галоўнымі праблемамі ўваходзім у сёлетнія Дні асветы, кніжкі і друку?**

— Дні гэтыя па традыцыі ўжо даюць аказію для папулярызацыі культурных дасягненняў, ствараюць шырокую магчымасць паказаць перспектывы развіцця нашай краіны. Паглыбленне палітычнай свядомасці, умацаванне адзінства народа, мабілізацыя грамадства вакол праграмы сацыялістычнага будаўніцтва — гэта праблемы, якія павінны знайсці сваё значнае месца ў майскіх Днях асветы, кніжкі і друку.

Асабліва будзем імкнуцца ў гэтым годзе да таго, каб выдабыць і паказаць сацыялістычны змест сучаснай польскай культуры, каб папулярызаваць далей ленінскія ідэі і ўмацоўваць нашу дружбу з СССР.

9 мая Дзень перамогі над фашызмам і 25-цігоддзе павароту да Польшчы заходніх і паўночных пястоўскіх зямель. Трэба моцна падкрэсліць гэты знамянальны факт. 17 мая — юбілей сялянскага руху, таму ў святкаванні павінны знайсці месца прагрэсіўныя традыцыі супольнай барацьбы рабочых і сялян за народную Польшчу і супольная цяпер праца над развіццём Радзімы.

Незалежна ад вялікіх гадавін, Дні асветы, кніжкі і друку павінны служыць шырокаму развіццю культуры і асветы, выхаваўчай працы з моладдзю. Паказваць трэба ролю кніжкі і газеты ў жыцці сучаснага чалавека.

**— Ці трэба бачыць і трактаваць беластоцкую культуру шматскладова, як па грамадскаму складу насельніцтва, па традыцыі, так і па нацыянальнаму складу?**

— Несумненна, культурнае жыццё Беласточчыны не ідзе паводле аднаго акрэсленага мадэлю. Мы аднак бачым штораз выразней культурнае збліжэнне паасобных раёнаў і асяроддзяў. Элементам, які яднае нас, з'яўляецца сацыялістычны змест нашай культуры. Але формы розных нашых культурных з'яў розняцца і, відаць, павінны розніцца. Бо форма нясе з сабой, захоўвае і выдабывае культурныя асаблівасці розных асяроддзяў, іх нацыянальныя традыцыі, звычаі, гістарычнае мінулае і г.д.

(Працяг на стар. 5)





III пленум ГП БГКТ, прысвечаны літаратурным і навуковым пытанням, адкрывае старшыня ГП Міхась Хмялеўскі. Фота ЦАФ — Сянько

## Літаратурны рух і навуковая дзейнасць

**(З ДАКЛАДА ЧЛЕНА ПРЭЗІДЫУМА ГП БГКТ, СТАРШЫНІ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ „БЕЛАВЕЖА", ДР. АЛЯКСАНДРА БАРШЧЭЎСКАГА НА ПЛЕНУМЕ ГП БГКТ 12 КРАСАВІКА Г. Г.)**

На працягу 14 год існавання БГКТ літаратурны рух, навуковая і выдавецкая дзейнасць не былі ні разу прадметам характарыстыкі, аналізу, а нават інфармацыі на пленуме нашай арганізацыі. У сувязі з гэтым, ацэньваючы сёння гэтыя напрамкі нашай працы, не можам не адклікацца да фактаў, якія маюць зараз амаль гістарычны характар.

Арганізаваныя формы беларускага літаратурнага руху ў Польшчы звязаны арганічна з утварэннем БГКТ і яго органа «Нівы». «Ніва», несумненна, павінна быць акрэслена як цэнтр, вакол якога пачалі збірацца беларускія літаратурныя сілы ў Польшчы. Добразычлівыя адносіны «Нівы» да паэзіі выявіліся ўжо ў першым нумары газеты, у якім паявіўся верш п. з. «Першы з'езд».

У тым жа нумары паявіўся першы літаратурны фельетон «Добры дзень, чытачы» Дзядзькі Леваня. Аўтар фельетона Станіслаў Вагурка на працягу многіх гадоў змяшчаў у «Ніве» свае творы. Трэба сказаць, што яго фельетоны карысталіся вялікай папулярнасцю сярод чытачоў. Выдадзеныя асобнай кніжкай у 1961 г., яны сталі падставай да прыняцця іх аўтара ў члены Саюза польскіх пісьменнікаў.

У сёмым нумары «Нівы» быў змешчаны першы паэтычны цыкл В. Асіповіча (Андрэя Сошкі). Аўтар гэты доўгі час праяўляў значную актыўнасць у літаратурнай творчасці.

У галіне развіцця празаічных літаратурных форм значную ролю адыграў Васіль Баршчэўскі. Апублікаваў ён у «Ніве» вялікую колькасць апавяданняў, звязаных тэматычна з рознымі галінамі жыцця беларускай вёскі. Надрукаваў ён таксама першую невялікую аповесць «Мішкавае вяселле», якой даўёў, што з'яўляецца ндрэнным назіральнікам і аналітыкам вясковага побыту.

У чэрвені 1958 г. адбыўся з'езд беларускіх аўтараў у Польшчы, на якім было створана «Беларускае літаратурнае аб'яднанне». У 26 (122) нумары «Нівы» за 1958 г. паявіўся першы нумар «Літаратурнай старонкі» — органа Беларускага літаратурнага аб'яднання. Літаратурная старонка стала пастаянным штомесячным дадаткам да «Нівы».

У ліпені 1958 г. адбыўся ў Беластоку літаратурны семінар, на якім з ацэнкай творчасці нашых аўтараў выступілі навуковы супрацоўнік Акадэміі навук

Працяг на стар. 4

## БГКТ хроніка

■ 14 красавіка бельскі аддзел БГКТ арганізаваў у Орлі павятовую акадэмію, прысвечаную 100-ай гадавіне з дня нараджэння Уладзіміра Леніна. У акадэміі прыняў удзел сакратар па прапагандзе павятовага камітэта ПАРП Раман Матосюк. Вёў акадэмію кіраўнік школы ў Орлі Аляксей Карпюк, а даклад чытала настаўніца беларускай мовы Ніна Война. Мастацкую частку выканалі вучні мясцовай школы. Прысутныя маглі паглядзець таксама цікавую выстаўку аб Леніне.

■ Клуб ваяводскай камісіі прафесіянальных саюзаў арганізоўвае «спатканні з паветамі». 15 красавіка прэзентаваў ён культурныя дасягненні Гайнаўшчыны. На гэтай вечарыне, між іншым, выступіў харавы калектыў гайнаўскага аддзела БГКТ.

■ На пасяджэнні прэзідыума сямяціцкага аддзела БГКТ (сядзіба ў Мілейчыцах) абмяркоўваліся справы павятовых элімінацый драмгурткоў і ўдзельнікаў на беларускую песню. Вырашана, што элімінацыі адбудуцца 17 мая.

■ У вёсцы Аўгустова ў Бельскім павеце рэарганізаваўся гурток БГКТ. Да яго зараз належыць 21 асоба. Членамі праўлення гуртка з'яўляюцца: Мікалай Крупіцкі — старшыня, Людміла Навіцкая — сакратар і Людміла Асташэвіч — скарбнік.

■ Актывіст бельскага аддзела БГКТ Андрэй Маскалевіч выступіў з дакладам аб У. Леніне ў вёсках Шасталы, Праневічы, Відава і Кошкі.

■ У Крывяцічах, Крывой, Аўгустове і Спічках экспануецца выстаўка «З жыцця БССР», якую падрыхтаваў бельскі аддзел БГКТ.

■ У Рыгораўцах 10 членаў БГКТ аплаціла ўжо складчыны за 1970 год. Члены гэтага гуртка Раіса Крот і Марыся Сцепанюк будуць прымаць удзел у павятовым конкурсе на беларускую песню.

■ Эстрада ГП «Лявоніха» 15 красавіка дала канцэрт на фабрыцы прылад і ухвытаў з нагоды акадэміі, прысвечанай 100-ай гадавіне У. Леніна.

■ Сакратар праўлення беластоцкага павятовага аддзела БГКТ Янка Цялушэцкі 9 красавіка спаткаўся з кіраўніком павятовай бібліятэкі Галенай Мадзалеўскай і дагаварыўся аб тым, каб усе выдавецтвы ГП знайшліся ў вясковых бібліятэках.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 137

# ЖЫЦЦЁ І ЎЧЫНКІ АНДРЭЯ

**(Урывак з новай аповесці)**

Тэлефон зазваніў, ён не мог доўга не званіць.

У ім чужое запытанне:

— Pan Andrzej?

— Я.

— Слухай, Андрэй, патрэбна...

Патрэбна няважнае, зусім няважнае, да таго няважнае, аж невядома, што? І, мабыць, таму часамі цяжэй даецца няважнае, чым важнае? Гэта так, Андрэй ведаў.

Ведае цану няважнага, бо калі няважнае для аднаго з'яўляецца важным для другога, тады разліваецца па ўсім целе смак жыцця: аднаму салодкі, другому горкі.

Ад чужога запытання запахла лістападам, сапрэлаю лістотаю ў парку. У тую адзінокую восень Андрэй напаткаў яго менавіта ў парку. Здарылася гэта далёка, на ўскраіне. Зусім побач рунела далечыня палёў і, здавалася, крычаць журавы ў небе, хаця неба чыстае, а журавы адляцелі ў пачатку восені, якраз у капанне бульбы.

Андрэю было кепска, вельмі кепска. Слухай, пачаў гаварыць Андрэй да яго, слухай, мне патрэбна алібі. Ці дасі мне алібі? «Нашто табе алібі?», даслоўна гэтак запытаў ён. Андрэй расказаў, што працаваў кладаўшчыком, ужо не працуе, выгналі, суд, мабыць, будзе, бо склад абакралі, падпалілі... Міліцыя дапытвала да рання, цэлы дзень, ноч: дзе вы, пане, былі паміж восьмай і дзесятай гадзінамі вечара? Спаў. Спаў? Дальбог, спаў! Так рана? Ну, нездаровілася. Чаму нездаровілася? Слабасць напала. Слабасць са страху, што абакраў і падпаліў!? Я не падпаліў, я не абакраў!! Не крычы, лепш прызнайся! Га? Што рабіў паміж восьмай гадзінай і дзесятай гадзінай? Спаў. Ці ты, чалавеча, бачыш перад сабою дурняў? Га!

Выпусцілі Андрэя ў дзесяць гадзін вечара, дакладна (згодна з законам!) праз двое сутак пасля таго, як прыйшлі пад дзверы, разбудзілі, сказалі апрануцца, пасадзілі ў легкавую машыну, уключылі сігнал, сіні. У тыя двое сутак, бадай, увесь свет забываў і забываў Андрэя. І зрабіў гэта так аднагалосна, да таго добрасумленна, што калі Андрэй вярнуўся, ніхто не пазнаў яго. Мусіць так вярталіся мікалаеўскія салдаты пасля дваццаціпяцігадовай службы ў занебакраі.

«Нашто алібі?», даслоўна запытаў. Гэта ўжо не пытанне, гэта сцверджанне! Сцверджанне з застыўшым зместам, усё роўна, быццам сказаў: «Гэта камень». Камень. Сапраўды, камень! Праўда, во, ляжыць. Або, усё роўна, быццам сказаў: «Я і ты, бо: ты, не я, а я, не ты». Усё, што не сказаў бы, праўда. А таму праўда, бо толькі сказаў; нават не запытаў, нават, шчыра гаворачы, не сцвердзіў. Толькі сказаў. Ідзеш полем зялёным, далінаю сонечнаю, летам залацістым, і закрычыш у прастору зіхатлівую: «Свет цудоўны!». Не запярэчаць табе маткі хворых дзяцей у капіцах вёсак, не пацвердзяць табе гаспадары, змардаваныя ў дрыгве клопатаў без канца. Ты адзін, ты сам, ты кажаш сабе, ты маеш рацыю, а таму маеш яе, што твая яна, твая.

«Нашто?», даслоўна азвалася яго рацыя. Нашто: сказаць у міліцыі, што Андрэй быў у яго кватэры да палавіны дзесятай, падпілі; раптам Андрэю зрабілася нядобра і ён правёў яго дамоў, нат' памог распрануцца і легчы ў пасцель, а выйшаў ад яго перад дзесятай, мо' дзесяць — пятнаццаць хвілін перад дзесятай. Мог бы, вядома, сказаць усё тое. Намахляваць.

Андрэй не абакраў. Не абакраў! Махлярства было б праўдаю, сродкам да праўды, — пагоняй за злодзеем. Было б яно той лыжкай чыстай вады, якую даюць чалавеку, хвораму ракам, каб ведаў ён, што лечаць яго, каб не траціў сілы на будаванне смерці; лыжкай надзеі, у якую не маюць права не верыць лекары: можа праз месяц, праз тыдзень, мо' заўтра здзейсніцца цуд у медыцыне, з'явіцца апостал новага, перамога жыцця над ракавай смерцю.

Даслоўная рацыя з'явілася, як права не верыць. Больш тато: абавязак не верыць. Штосьці з дзявочага «не», якое абазначае «так», з той розніцай, што гэтае «не», не абазначала «так».

Андрэй глядзеў яму ў вочы.

— Нашто табе алібі? — запытаў ён у Андрэя. — Табе нічога не даказалі. Табе нічога не дакажуць. Ты невінаваты. Твой дырэктар непатрэбна запеніўся, звольніў цябе з работы. Яго трэба вярнуць на дарогу. Ён добры конь, крыху палахлівы.

Голас прагучэў, бы дабрадушнае мармытанне гаспадара на мяжы поля ў Юр'еў дзень. Мармытанне да самога сябе, гутарка задаволенасці з задаволенасцю, самой з сабою.

— Нашто... — гаварыў ён веснавым голасам. Ён бачыў Андрэя хмурынкай за палеткамі, якая не паспее пакрапіць яго; вернецца сухім. Пакрапіла б лёганька, нават здаравей целу, але нашто? Зрэшты, не першая і не апошняя.

Андрэй сказаў:

— Міліцыя мае права і абавязак не верыць. Сябар такое права павінен перш даказаць, а потым карыстацца ім.

— Што ты!... — выкрыкнула павага ў ім. — Я проста не думаў...

І ўпэўнена закончыў:

— Вядома, пайду ў міліцыю, скажу так, як дамовіліся. Дробязь. — Паўтарыў: — Дробязь, — і павага абціхла.

Так і зрабіў.

І Андрэй зноў чалавекам.

**С. Яновіч**

* * *

Цябе няма, і ўся зямля маўчыць.
Заціхлі рэчкі горныя навечна.
Няма куды спяшацца мне цяпер —
Ўсё роўна дзе я, хто, я, з кім я.

Ты адышла, як адыходзіць цень
На грані дня і ночы ад прадметаў.
І толькі недзе ўвысі тваё імя
Звініць трывожнаю актавай нада мной.

**І. Чыквін**

* * *

Аддай мне шчасце.
Поўнай жменяй!
Насып мне
сонечных праменняў.
Зрабі дыван
з вясёлак спелых,
Каб радасць
бляскам зіхацела.
Я рассцялю яго
пад ногі,
Закрыю смутак,
боль,
трывогу.
Тады вазьму яго ў далоні
І запрагу —
праменні — коні —
У калясніцу
маіх мараў —
Памчу ў жыццёвыя абшары.

**Л. Танкевіч**

Чалавек ідзе —
бязногі.
Чалавек
нейкі хмурны
і строгі.
Чалавеку не спіцца,
балюча.
Яму не сядзіцца:
мучыць
прадчуванне смерці...
Чалавек ідзе,
каб верыць
ў жыццё
і бяссмерце.
Чалавек ідзе
ўпарта...
Ён ідзе,
а следам —
унук за дзедам.
І рыпіць несціхана
пратэз —
вайне пратэст!

**Міхась Мельнік**

## ДОБРЫ ЎЧЫНАК ТРОХ ДЗЯЎЧЫНАК

Скрай сяла бялее хата,
Ў ёй жыве бабуля — Ната.
У бабулі ёсць гародзік.
Перад хатай, у загародзе.

Выйшла з хаты бабка Ната,
Ў руках граблі і лапата,
У прыполе і ў кішэнях
Поўна ўсякага насення.

А дарогай, недзе з поля,
Шлі: Алеся, Люба, Толя.
— Гляньце, бабка ў загарожы,
Ходзьце, ходзьце ёй паможам.

Борздка рушылі дзяўчаткі,
Ўжо ля бабчынае хаткі.
Прывітаўшысь з бабкай Натай
Сталі працаваць заўзята.

Неўзабаве, па-парадку,
Былі ўскопаны ўсе градкі.
Як тачоныя, ўсё роўна,
Баразёнкі ляглі роўна.

— А цяпер, — гаворыць Толя, —
Дзе пасадзім мы фасолю?
— Пад сцяной, — кажа Алеся, —
Каб вілася аж па стрэсе.

Тут цыбульку і пятрушку,
Там маркоўку і капусту,
А пад плотам — найбольш нізка —
Там расці будзе радыска.

— А там, — Люба зноў гаворыць,
Мы пасадзім памідоры.
Пакуль вырасце расадка,
Пастаіць пустая градка.

На туркі, на мак дзяўчаткі
Адвялі таксама градкі.
— Пад вакном пасеем кветкі,
Каб цвілі для бабкі ўлетку.

Як рашылі — так зрабілі.
Ўміг гародчык пасадзілі.
— Мы садзілі, мы аполем —
Заявіла цвёрда Толя.

Ў бабкі коцяцца слязінкі:
— Дзякуй, дзякуй вам, дзяўчынкі.
— Хай бабуля наша знае,
Што яе не забываем.

**Софія Стаськевіч**

# СЯЛЯНСКАЯ ВЯСНА

**Вясна — сялянская надзея
І вырай працы не малы.
Зноў будзем поўнай жменяй сеяць
І верыць сонцу і зямлі.**

**Каню аўса, каб быў рухавы,
Хто ж не падсыпле ў гэты час.
А тут нахлынулі зноў хмары
І валіць снег — словам бяда.**

**Бо так бывае на прадвесні:
Снег валіць, то зноў растае.
Сціхае жаваранка песня,
Ды ажывае шчэ' мацней.**

**Запахла прэснаю вадою,
Загаманілі ручайкі.
А я ладую балон гною,
І горкі пот з мяне ляціць.**

**Ўсе паэтычныя настроі
Быццам рукою адняло.
Надаядае быць героем
І працы цяжкае рабом.**

**Селянін спіць — яму расце, —
Не веру я ў абманны лозунг!
Сяляне вырашчаюць хлеб
Працай, і потам, і душою.**

**УЛАДЗІМІР ГАЙДУК**

## ЗУБРОЎНІК ЯНКІ ДУБІЦКАГА

**С. С. — Гайнаўка.** Вы імкнецеся гаварыць пра справы вялікія, нават грандыёзныя ў сваіх агульнадзяржаўных ці агульнанародных маштабах, аперыруеце паняццямі высокімі. Але таму, што няма ўласнага вопыту, твору не хапае жыццёвай праўды. Твор «Дзе ж вы хлопцы?» — гэта агульшчына і рыторыка ў дрэнным значэнні слова. Не выкарыстаем.

**В. Л. — Плёскі.** Не вядома чаму маладыя людзі ўсё часцей прысылаюць да нас вершы, напісаныя ў форме верлібра (вольнага верша). Сапраўдны верлібр, як і ўсе сапраўдныя творы, вымагае вялікай працы — хто ведае, ці не большай, як пры класічных формах. Вашыя верлібры гэта празаічны набор слоў з ніякаватай думкай. Чытаць, вучыцца, працаваць — вось які павінен быць ваш лозунг. І больш патрабавальнасці да сябе.

**З. С. — Волька.** Што ж, прысланымі творамі вы не апраўдалі нашага даверу, дадзенага вам намі ў форме публікацыі на літстаронцы. Усё сказанае вышэй адносіцца і да вас не ў меншай ступені.

**Да чытачоў.** Калі вы прабуеце ўласнымі сіламі пісаць (прозу ці вершы) і хочаце пачуць аб напісаным нашае слова, будзьце добры, прысылайце ў рэдакцыю творы старанна і выразна перапісаныя, адзін твор на адной старонцы паперы.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Пачатак на стар. 1

# ЯДНАЕ НАС САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ ЗМЕСТ

**— Ці выступаюць няроўнасці ў культурным жыцці ў паасобных раёнах Беласточчыны і ў якой ступені справа гэта залежыць ад павятовых і грамадскіх рад нарадовых?**

— На культурнае развіццё асяроддзяў уплыў маюць дзве рэчы: развіццё культурных устаноў і культурная актыўнасць саміх людзей. Адназначна цяжка акрэсліць інтэнсіўнасць культурнага жыцця ў тым ці іншым павеце нашага ваяводства. Для прыкладу можна тут прывесці Сямяціцкі павет, які не мае ані вялікай колькасці бібліятэк, клубаў, святліц ці кіно, а аднак гэта павет з вялікімі культурнымі аспірацыямі. Мясцовы мастацкі рух, жывая дзейнасць рэгіянальных таварыстваў, цікавыя ініцыятывы сведчаць, што павет гэты заангажаваны ў культурнае развіццё свайго раёна.

Найчасцей аднак, як меру развіцця культуры, прымаюць лік культурна-асветных устаноў. У гэтым сапраўды розніца паміж раёнамі бывае даволі значная. Статыстычныя дадзеныя на канец 1969 года паказваюць, што адна вясковая культурная ўстанова (клуб, святліца, бібліятэка, кіно) у Дуброўскім павеце прыпадае на 1,01 салэцкіх вёсак, а ў Сувальскім аж на 5,90 вёсак; у Лапскім — на 2,00 вёсак, а ў суседнім Высока-Мазавецкім — на 4,48 вёсак. Несправядлівым было б вініць за гэтакі стан толькі павятовыя, ці грамадскія ўлады. Прычыны трэба шукаць глыбей — у культурнай традыцыі асяроддзя, у спосабе будовы вёскі, у сетцы дарог, якія спалучаюць ці не спалучаюць з іншымі культурнымі цэнтрамі, у фінансавых магчымасцях павета і г. д. Зробім аднак сур'ёзную памылку, калі звядзем развіццё культуры толькі да дзяржаўных інвестыцый і дзяржаўных грошай. Каб цвіло культурнае жыццё, быў патрэбен і будзе патрэбен актыўны ўдзел саміх людзей у творчым працэсе культурных вартасцей — як матэрыяльнай культуры, так і духоўнай.

Таму мы чакаем ад павятовых і грамадскіх улад не толькі будовы новых святліц і клубаў, але большай ініцыятывы, прадуманага кіравання культуратворчай дзейнасцю грамадства.

**— Якая роля грамадска-культурнага руху беларускага насельніцтва ў супольных культурных дасягненнях Беласточчыны?**

— Грамадска-культурны рух беларускага насельніцтва, без ніякага сумнення, з'яўляецца важным нуртам у агульным рытме культурнага жыцця на Беласточчыне.

Мы высока ацэньваем дынамічнае, асабліва ў апошні час, развіццё аматарскага мастацкага руху ў беларускіх асяроддзях, бачым усё цікавейшыя напрамкі і формы культурна-асветнай працы клубаў і святліц. Вельмі добра развіваецца літаратурная і выдавецкая дзейнасць аб'яднання «Белавежа», багацее цікавымі экспанатамі, арганізаваны Беларускім таварыствам, Этнаграфічны музей у Белавежы. Цікавую новую праграму падрыхтавала «Лявоніха». Ужо гэтыя некалькі прыкладаў сведчаць аб шырыні і аб'ёме культурна-асветнага руху ў беларускіх асяроддзях і аб тым, што рух гэты мае вялікае значэнне ў агульным культурным жыцці Беласточчыны.

Нельга прамінуць тут факту, што мы з'яўляемся сведкамі ўсё больш поўнай інтэграцыі культурнай дзейнасці беларусаў з рознымі культурна-асветнымі ўстановамі і арганізацыямі ў нашым ваяводстве. Прыклады на гэта — дакументы пагадненняў, падпісаных Галоўным праўленнем Беларускага таварыства, як і практычная дзейнасць.

**Інтэрв'ю ВЕРЫ ЛЕЎЧУК**

Фота Цаф — Сянько




**На думку журы, найлепш спявала Ірэна Аляксандрава з Сувалак. На здымку яна ў песні «Чортава кола». А. Бабаджаняна.**



**Вучань будаўляна-дарожнага тэхнікума ў Беластоку Мікалай Мірановіч у песні «Позови меня» А. Бабаджаняна.**

# БЕЛАСТОЦКАЕ СВЯТА САВЕЦКАЙ ПЕСНІ



**На думку большасці слухачоў, найцікавейшым і найсімпатычнейшым было беластоцкае трыё студэнтак I курса Вышэйшай настаўніцкай школы ў Беластоку. На здымку (злева) Уршуля Дабжанская, Гражына Шымкевіч, Софія Орпік выконваюць песню Б. Акуджавы «Шар».**

Два дні плылі з беластоцкай сцэны савецкія песні. Праходзіў ваяводскі агляд IX агульнапольскага конкурсу савецкай песні.

Конкурс гэты на Беласточчыне ў 1970 годзе дасягнуў небывалых размераў. Каля шасці тысяч чалавек прайшло праз усе яго этапы. Навінай быў вялікі ўдзел у ім вясковых людзей — членаў сельскагаспадарчых гурткоў, гурткоў вясковых гаспадынь, працаўнікоў ПГР-аў. У Элку выступілі 80-гадовыя жанчыны. Адзетыя ў доўгія спадніцы, спявалі яны беларускія савецкія песні.

Штораз больш удзельнікаў конкурсу спявае савецкія песні на рускай мове. На ўрачыстым канцэрце беластоцкія лаўрэаты палову сваіх песень выконвалі на гэтай мове. Усе новыя песні, якія аматары савецкай песні прымаюць у свой рэпертуар, выконваюцца без перакладаў.

Улюбёным савецкім кампазітарам сярод беластачан доўгія гады быў Арно Бабаджанян. Папулярнасць яго ўтрымалася і ў гэтым годзе, але паявіўся моцны канкурэнт — Булат Акуджава. Спяваліся ўсе яго, такія цёплыя, песні з грампласцінкі, якую выдалі «Польскія награнні».

Тэрытарыяльна — з найбольшым размахам IX конкурс праходзіў у паўночных паветах: Сейнах, Голдапе, Элку. Лепш, чым за мінулыя гады, арганізатары хваляць цяпер Гайнаўскі павет. Сямяцкі таксама добра паказаўся, хоць у конкурсе прымаў удзел толькі другі раз. Прыемна выступіў Гарадок.

Ваяводская камісія прафсаюзаў у Беластоку ўпершыню ўручыла кубак (з крышталю) найбольш актыўнаму павету за VIII конкурс. Атрымаў яго Голдапскі павет. Слава ідзе, што за IX конкурс атрымае такі кубак Элцкі павет.

Узнагароды (на суму 13,5 тыс.) фундавалі: ВКЗЗ, ЗГП, ЗМВ, ЗМС, Куратарыум, Аддзел культуры ВРН, Рамесніцкая ізба.

Першай узнагародай была экскурсія ў СССР і яе атрымала Ірэна Аляксандрава з Сувалк.

Дзве другія: Марыя Сабалеўская — студэнтка СН з Элку і Ева Левандоўская — вучаніца ліцэя з Беластока. Тры трэція: Яніна Мілеўская — настаўніца з вёскі Кажэніцы каля Ломжы, Бажэна Немец — вучаніца ліцэя з Сувалк, Віктар Фалюк — вучань тэхнікума з Беластока.

Былі ўзнагароджаны дзве групы: квартэт з Сувалк і сімпатычнае трыё студэнтак з філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Шэсць іншых узнагарод пайшлі ў Ганёндз, Бельск, Алецка, Лапы і Элк.

Цэнтральны агульнапольскі агляд IX конкурсу савецкай песні адбываўся ў першай палове красавіка ў Інаўроцлаве.

**Тэкст Вера Леўчук**
**Фота Цаф — Сянько**

мацца. Дагэтуль яшчэ пераважае ў нашых творах ваенная і пасляваенная тэматыка, або чыста лірычныя развaжанні. Выразна бракуе ў нас тэм, зачэрпнутых з сучаснага жыцця. Няма і адгалосу гімна, які павінен быць праспяваны вялікім гістарычным пераменам у сучаснай вёсцы. Дасягненні вёскі за апошнія дзесяць год у галіне будаўніцтва, механізацыі сельскай гаспадаркі, узросту дабрабыту і асветы вёскі рашуча перарастаюць усё тое, што было зроблена ў гэтых галінах на працягу ўсяго папярэдняга стагоддзя. На жаль, нашы літаратурныя творы толькі ў нязначнай ступені паказваюць гэты гістарычны працэс. Нашы аўтары павінны сур'ёзна задумацца над пашырэннем тэматычнага аб'ёму сваіх твораў.

Другім слабым бокам нашай дзейнасці з'яўляюцца кантакты з польскімі літаратурнымі групамі, якія дзейнічаюць у Беластоку. Усё, што адбывалася дагэтуль, мела выпадковы характар. Не было ў гэтай галіне ні сістэмы, ні праграмы, ні плана. Думаю, што добра было б апрацаваць доўгатрывалы план супрацоўніцтва з польскім літаратурным рухам. Карысна было б абацерці супрацоўніцтва на ўзаемных карысцях. Маглі б яны выяўляцца ў сістэматычным друку ва ўсіх нашых выдавецтвах і літаратурных старонках твораў польскіх беластоцкіх аўтараў у замен за пастаянны друк перакладаў нашых твораў у беластоцкіх польскіх выданнях.

### НАВУКОВАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ ПАТРАБУЕ АКТЫВІЗАЦЫІ

Пачаткі навуковай дзейнасці БГКТ амаль што супадаюць ў часе з пачаткамі літаратурнага руху. Ужо ў 1956 г. былі ў «Ніве» змешчаны першыя навукова-папулярныя артыкулы Мацея Канапацкага і Аляксандра Баршчэўскага. Былі яны прысвечаны гісторыі беларускай літаратуры і польска-беларускіх літаратурных сувязей. У 1958 г. існаваў ужо навуковы гурток, які канцэнтраваў людзей, зацікаўленых беларускай праблематыкай. Гурток досыць рэгулярна праводзіў сходы, на якіх характарызаваліся і абмяркоўваліся матэрыялы з галіны гісторыі, геаграфіі, літаратуры і фальклору. Аднак ад самага пачатку і да сённяшняга дня навуковы гурток не меў і не мае акрэсленай канцэпцыі працы і планаў. Усё, што было ў ім зроблена, мела характар выпадковы і стыхійны. Зборнікі, якія выйшлі дагэтуль, не былі вынікам прадуманага плана, а толькі вынікам таго матэрыялу, які апынуўся ў руках кіраўніцтва БГКТ. Першы навуковы зборнік выйшаў з друку ў 1961 г. У сэнсе бібліяграфічным стаўся ён адным з найбольш непрадуманых кніжных выданняў. Рэдкалегія паддалася намовам тагачаснага старшыні ГП БГКТ і спалучыла навуковы зборнік з календаром на 1961 г. У выніку гэтага не атрымаўся ні каляндар, ні навуковы зборнік. Такім чынам, быў змарнаваны досыць сур'ёзны навуковы матэрыял, які складаўся з наступных публікацый: «Беларуская рабоча-сялянская грамада» Г. Анацііка, «Пачаткі рабочага руху на Беласточчыне» П. Кожэца, «Агляд публіцыстычна-літаратурнай спадчыны Кастуся Каліноўскага» А. Баршчэўскага, «Гайнаўскі павет Беластоцкага ваяводства» У. Юзвюка, «Камізм у творчасці Якуба Коласа» А. Баршчэўскага, «Беларуская вусная народная творчасць Беласточчыны» М. Гайдука.

Гады 1961—1964 з'яўляюцца найбольш актыўным перыядам ў навуковай дзейнасці БГКТ. За гэты параўнаўча кароткі час было праведзена многа сходаў членаў навуковага гуртка і была выпрацавана канцэпцыя другога навуковага зборніка, які выйшаў у 1964 г. Зборнік гэты сваімі размерамі і вагай змешчаных у ім прац перарастаў зборнік з 1961 г. Былі ў ім апублікаваны наступныя працы:

„Zarys dziejów osadnictwa wiejskiego we wschodniej części województwa białostockiego do połowy XVII wieku" Е. Вішнеўскага, «Некаторыя пытанні беларускага нацыянальнага руху» В. Склубоўскага, «Праблескі і цені польска-беларускага супрацоўніцтва ў час студзеньскага паўстання» Ф. Берніковіча, «Старонкі з рэвалюцыйнай барацьбы гарбароў у Крынках» П. Кожэца, «Беларуская сялянска-работніцкая грамада ў 1925—1927 г.г.» А. Бергман, «Польскія вершы Я. Купалы» А. Баршчэўскага, «Гайнаўскі павет Беластоцкага ваяводства. Частка II» У. Юзвюка, «Матэрыяльная культура Сакольскага павета» М. Пецюкевіча, «Да гісторыі польска-беларускіх лексічных узаемасувязей» Л. Раманюк.

На зборніку з 1964 г. канчаюцца навуковыя дасягненні нашага Таварыства. Нягледзячы на тое, што ўжо ад яго выхаду мінула шэсць гадоў, да сённяшняга дня няма падрыхтаваных матэрыялаў да наступнага выдання. І таму трэба моцна задумацца над шляхамі і спосабамі, якія памогуць нам выйсці з існуючага стану мярцвячыны ў галіне навуковай практыкі.






© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

